АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

10 – 16 СНЕЖНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 40000 РУБЛЁЎ
№50 (242)

НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| | Субота, 11 снежня | | Нядзеля, 12 снежня | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | -2°C – -4°C | -1°C | -2°C – -6°C | -4°C |
| Удзень | -1°C – +1°C | 0°C | -1°C – +1°C | 0°C |

МАЛАДЗЕЧНА

## Эслінген разрывае афіцыйныя сувязі з Маладзечнам

Больш за 12 год Маладзечна падтрымлівае партнёрскія сувязі з нямецкім горадам Эслінгенам-на-Некары. За гэты час ажыццёўлена шмат сумесных акцый і праектаў, многія сем'і трывала пасябравалі.

Аднак надаўна савет абшчыны і адміністрацыі Эслінгена накіравалі ў Маладзечна ліст, дзе паведамляюць пра намер разарваць любыя афіцыйныя кантакты да пачатку рэальных пераўтварэнняў у Беларусі.

**Юта Фарыён**, якая ў бургамістрацe Эслінгена адказвае за партнёрскія сувязі, адзначае, што немцы добра помняць **Генадзя Карпенку і Віктара Ганчара**, якія з 1991 па 1994 год працавалі ў Маладзечне, былі надзейнымі і адказнымі суразмоўнікамі. Нямецкі бок заклікае беларускія ўлады неадкладна ўстанавіць месцазнаходжанне В. Ганчара, які, дарэчы, прызнаны ў Эслінгене чалавекам года.

Разам з тым, кантакты, у аснове якіх прыватныя, грамадскія і іншыя неафіцыйныя стасункі, будуць падтрымлівацца.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Кафэ дасць камп'ютэрны клас

Амаль за 7,5 мільярда рублёў пры стартавай цане ў 5,92 мільярда прададзенае кафэ "Агеньчык" у цэнтры горада. Новым уладальнікам аб'екта стала прыватная вытворча–камерцыйная фірма "Турон".

50% выручанай сумы пайшло ў бюджэт раёна, на гэтыя грошы адной з гарадскіх школ будзе куплены камп'ютэрны клас. Астатнюю суму атрымала ВА жыллёва–камунальнай гаспадаркі – яно выкарыстае грошы па ўласным разуменні.

*Павел МАКЛЮК.*

ВАЛОЖЫН

## Грошы на «Новае жыццё»

Кіраўніцтва Савецкага раёна сталіцы выдаткавала 1,5 мільярда пазабюджэтных рублёў на пабудову новай воданапорнай вежы на Валожыншчыне.

"Нававбуд" узводзіцца ля Яршэвіцкай СШ. Менавіта на базе гэтай школы падчас канікулаў створаны летнік працы і адпачынку для мінскіх школьнікаў. Працуе ж сталічны дэсант на палетках гаспадаркі "Новае жыццё"

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

СМАРГОНЬ

## Экспрэсныя пасажыры

2600 і 1126 кіламетраў адпаведна – такая пакуль што была працягласць аўтобусных маршрутаў у раёне і горадзе. Цяпер яна прыкметна скарачаецца.

Таму, па прапанове аўтапарка №17, райвыканком зняў шэсць прыгарадных маршрутаў з нізкім пасажырапатокам, у аснoўным, у пятніцу і нядзелю. Апрача таго, усе прыгарадныя маршруты (іх 31) ён прапанаваў арганізаваць у экспрэсным варыянце ў пятніцу, суботу, нядзелю і панядзелак з аплатай за праезд па двайным тарыфе.

*Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Дадатковы аўтобус – экспрэс №6А

Па гарадскіх вуліцах пачаў ездзіць аўтобус з нязвыклым нумарам 6А: завод парашковай металургіі – атэлье "Бярозка" – Здземелева.

Гэта экспрэс, кошт праезду ў ім устаноўлены ў 20 тысяч рублёў. Калі ў пасажыра праязны, яму трэба даплаціць 10 тысяч. Экспрэс заклiканы зняць напружанне пасажырапатоку ў гадзіны пік.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Вынясенне рашэння па справе аб хабары

Мясцовы суд з другога заходу даваў справу да вынясення прысуду былому дырэктару Маладзечанскага медвучылішча **Ларысе Тамошкінай**. За хабарніцтва яе асудзілі на 3,5 гады пазбаўлення волі. Пад следствам яна ўжо адседзела 1 год і 4 месяцы.

Трое выкладчыкаў гэтага ж медвучылішча, якія таксама праходзілі па справе як хабарнікі, атрымалі пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ўмоўна.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Удалы год для мастака

7 снежня ў сярэдняй адукацыйнай школе мастацтваў адкрылася выстаўка мастака **Рыгора Мяжэва**.

– Заканчваецца год, і кожны імкнецца падвесці вынікі, – гаворыць мастак. – Мне здаецца, што гэта натуральнае імкненне кожнага чалавека: азірнуцца назад... і пачаць планаваць сваю работу на наступны год. Выстаўка – сумесная з маімі вучнямі.

**Насця Лужынская і Вольга Сіняўская**, чые творы таксама прадстаўлены на выстаўцы:

– Дзе ж яшчэ можаш парыўнаць творы настаўніка і свае!?

– Год для мяне аказаўся вельмі насычаны, і зроблена сапраўды шмат чаго, – заначае Р. Мяжуеў. – У прыватнасці, удзел у чатырох рэспубліканскіх выстаўках. А самае галоўнае – уступленне ў Беларускі Саюз Мастакоў.

*Альберт АЎЧЫННІКАЎ.*

СТЫХІЯ

# Стыхія паклапацілася пра Новы год



Гэтую махнатую 10–метровую прыгажуню вецер паваліў у гарадскім парку Маладзечна ля атракцыёна "Вясёлыя горкі". Вучні сярэдняй школы №11 Арцём і Васіль толькі ўздыхалі: вось бы такую елку ў клас.

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

У мінулыя выхадныя сіла ветру ў некаторых месцах рэгіёна даходзіла да 30 метраў у секунду. Дасталося не толькі дрэвам і пабудовам. Знікненне двух чалавек напрамую звязана са стыхіяй.

**МЯДЗЕЛ**. Два мясцовыя рыбакі ад самага ранку выехалі на лодцы парыбачыць. Возера Нарач было спакойнае і не абяцала непрыемнасцяў. Бліжэй да абеду з Мінска пайшлі тэлефанаграмы–папярэджанні пра тое, што надыходзіць моцны вецер. У панядзелак рыбакоў адшуквалі вадалазы.

Мядзельшчына (калі не ўлічваць чалавечых ахвяры) пацярпела няшмат. Часова было абясточана 11 населеных пунктаў.

**ВІЛЕЙКА**. У тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне з нейкімі траўмамі, атрыманымі з–за капрызаў надвор'я, ніхто не звяртаўся. У вёсцы Пагост калгаса "Праўда" знесла і крыху пакачала па вуліцы воданапорную вежу. Вяскоўцы хрысціліся: такога яны яшчэ не бачылі.

Найбольш пацярпелі гаспадаркі імя Чарняхоўскага, "XXI з'езд КПСС", "Чырвоны кастрычнік". Сувязь знікла ў 6 населеных пунктах. Найбольш паваліла дрэў уздоўж дарогі на Даўгінава. 10 брыгад электрыкаў, 6 сувязістаў у суботу і нядзелю працавалі ва ўзмоцненым рэжыме.

**СМАРГОНЬ**. 16 вёсак было абясточана. Пацярпелі аб'екты з большай плошчай дахаў. Такіх гаспадуроў – 48. У калгасе "Смаргонскі" ветрам сарвала дах разам з кроквамі ў 4 цялятніках. У "Савецкай Беларусі" знесла калгасную запраўку: домік дзяжурнага і 2 забетанаваныя калонкі.

Непасрэдна ў горадзе дрэвы клаліся "удала" – уздоўж вуліц, рух транспарту не перакрывалі. У ДОСах вырвавае з глебы дрэва прытуліла да жылой трохпавярхоўкі.

Яшчэ стыхія канчаткова не ўтаймавалася, а раніцой у нядзелю на калгасных вадаёмах ужо сядзелі рыбакі. На лёд, праўда, далёка не заходзілі – 5–6 метраў ад берага.

**ВАЛОЖЫН**. Раёну дасталося больш за ўсіх у рэгіёне. Пацярпела 36 вёсак, пашкоджана 62 жылыя будынкі, 46 гаспабудоў, 131 вытворчы будынак, 5 аб'ектаў гандлю. Часова было абясточана 110 населеных пунктаў.

У самім Валожыне вецер "раскрыў" дахі 2 пяціпавярховак: кааператывы "Меліяратар" і "Аўтамабіліст". У раёне ўтварылася 38 завалаў з дрэў. Завалiла дарогі Валожын–Івянец, Івянец–Ракаў.

– Будзем з палівам! – гавораць вяскоўцы.

**МАЛАДЗЕЧНА**. Маладзечанцы (пераважна, студэнты) трапілі ў цісканіну. У суботу пасля 14[00] з–за адключэння электраэнергіі спыніўся рух электрычак з Мінска. Калі ўвечары электрацягнікі пайшлі, трапіць у вагоны было не ўсім па сілах.

Падраздзяленні ваенізаванай пажарнай службы і аварыйна–выратавальная часць працавалі ў рэжыме "надзвычайная сітуацыя". Вось толькі частка іх выездаў: вёска Загор'е, Граніцкі сельсавет: паваліла апоры электраперадач; пажарныя абрэзалі правады. Маладзечна, вуліца Семінарыйская, 59 (раён станказавода): сарвала шыфер з даха прыватнага дома; з 12–павярхоўкі (Вялікі Гасцінец, 139А) сарвала частку даха; на вуліцы Грамадоўскай вывернула дрэва і пакпала пасярод дарогі. На торфабрыкетным заводзе "Беразінскі" адпампоўвалі ваду – таксама аварыя з–за моцнага ветру.

Па Маладзечанскім раёне страты склалі 22 мільярды рублёў.

**АШМЯНЫ**. У вёсцы Крыванцы сарвала воданапорную вежу. Яна была без вады, таму вецер хутка яе "угаварыў". Па раёне зарэгістраваныя нешматлікія пашкоджанні. Трэба 4 тысячы лістоў шыферу, каб іх ліквідаваць: пашкоджаныя, у асноўным, былі дахі.

**АСТРАВЕЦ**. У мястэчку Гудагай вецер абрэзаў комін лазні. Раскрыла дах гасцініцы ў Астраўцы. Наогул, пашкоджанні невялікія. Каля 3 тысяч лістоў шыферу трэба, каб "залапіць" наступствы стыхіі.

У пачатку тыдня сіла ветру даходзіла да 25 метраў у секунду.

*Падрыхтавалі Наталля ВАЛЫНЕЦ, Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

СТАРАЖЫТНАСЦЬ

# Плябанскай знаходцы 2699 год

*МАЛАДЗЕЧНА. Днямі супрацоўнікі інстытута археалогіі далі экспертнае заключэнне каменю, знойдзенаму на тэрыторыі архітэктурнага комплексу ў Плябані ("РГ" №45 ад 5 лістапада).*



Святлана Паркалава са знаходкай.

ФОТА З АРХІВА С. ПАРКАЛАВАЙ.

Месяц таму, пры правядзенні даследаванняў тэрыторыі спецыяльным прыборам, на глыбіні метра ў Плябані знайшлі камень памерам з галаву чалавека. Выдзеўбаны на камені твар сведчыў пра яго старажытную апрацоўку. Знаходку (пад аховай!) павезлі ў Мінск на экспертызу.

Эксперты–навукоўцы лічаць, што "галава" асэнсоўвацца як знак сонца. Гэта своеасаблівы сімвал святла, агню, цяпла, гарэння. Сімвалічная выява сонца і іншых нябесных целаў, па паганскіх уяўленнях, мела магічную сілу. Абараняла яго ўладальніка ад злых духаў. "Галаве" – 2699 год.

Спецыялісты ўпэўненыя, што ў Плябані ёсць рэшткі старажытных паселішчаў і могілак. Па словах загадчыцы музея гісторыі і беларускай літаратуры, што ў Плябані, **Святланы Паркалавай**, дырэктар іх аб'яднання **Леанід Хадкевіч**, як і сталічныя навукоўцы, зацікаўлены ў правядзенні вясной раскопак на тэрыторыі комплексу. У далейшым плануецца адкрыць у музеі экспазіцыю археалагічных матэрыялаў.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

СТАРЫ АЛЬБОМ



ФОТА З ФОНДАЎ МІНСКАГА АБЛАСНОГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ.

# Геляноўская брама

МАЛАДЗЕЧНА. Гелянова. Цяпер – вул. Машэрава каля Мінскага абласнога драмтэатра. Брама знесеная пры рэканструкцыі вуліц. Кажуць, што частка перавезеная ў Беразінскае (львы). Брама ў выглядзе трыумфальнай аркі – не рэдкая з'ява для Беларусі. Рэшткі падобнай брамы захаваліся ў Ружанах на Брэстчыне. Менавіта ў XIX стагоддзі, калі, верагодна, была пабудаваная і Геляноўская брама, трыумфальныя аркі становяцца прэстыжнай часткай палацава–паркавых ансамбляў. Магчыма, хтосьці з нашых чытачоў зможа дапоўніць нешматлікія звесткі пра гэты архітэктурны помнік, знішчаны пасля вайны. Фота 20–х гадоў.

*Мікола ГАЙДУК.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# У Красным пакралі селядцы

**М. Краснае, Віленской губ., Вілейскага пав.**

У нашым мястэчку зладзеі недаўна ўбіліся ў ночы ў краму і пачалі там па свойму гаспадарыць і парадкаваць. За сьцяной спаў гаспадар – Плотнік; прачнуўшыся, нарабіў гвалту і зладзеёў прагнаў. Тады яны паехалі да другога габрэя, што дзержыць рэстаран; выкацілі пачатую бочку з селядцамі, ускацілі яе на воз, дый пачалі ўцекаць; габрэй прачнуўся, давай іх даганяць; зладзеі скінулі на ўцеху гаспадару з воза 16 селядцоў, а з рэштай уцяклі.

25 наябра сьнег саўсім прапаў і селяне вельмі цешацца, што надзея ёсць ешчэ на жыта, бо перш баяліся, што сьнег атпарыць. Дарогі нема саўсім і дроў трудна дастаць, дык пачалі красці бярозу с тракту. Дрэнная, ой вельмі дрэнная работа! Год у год – шмат гіне мяцеліцай людзей, дзеля таго толькі, што нема знакоў каля дарогі. За граніцай дарогі абсаджваюць фруктовымі дрэвамі, і там ня толькі дрэвы цэлы, але яблычка ніхто не зачэпіць. І выходзіць што край, то абычай!

*Баўтручок.*

**Валожын, Віленскай губ.**

Каля нас сенажаці балотлівые і сена з іх возяць зімой, а цяперашняй дарогай дастаць яго нельга, дык наша скацінка галадае надта на адной саломцы.

*Стары Улас.*

**М. Валожын, Віленскай губ, Ошмянскага пав.**

У нас была толькі адна фабрыка сушкі варыва, але і тая цяпер закрылася. Перш бывало, хоць капеек 25 выганіш у дзень, а цяпер і гэтаго нема, цягаюцца людзі без работы па рынку. Кабеты ходзяць трэпаць лён і там – у гэтым пылу, хоць хваробы набываюць, але беда гоніць, каб зарабіць 12 к. за ўвесь дзень працы. Дрэнна жыць людзём каторые не маюць сваёй зямлі, – а ў нас такіх шмат!

*Марцін.*

Каля нашага мястэчка па вёсках Чэртовічы, Брылкі і Бабровічы паадкрывалі народные школы; ад сенцябра седзяць ужо і вучыцелі, а вучыць – ня вучаць, бо нема ні лавок, ні хат пад вучылішчы.

*Шап–скі.*

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва". №50 ад 10 дзекабра 1909 года.**

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

ДАВЕДНІК «РГ»

**КОЖНЫ ДЗЕНЬ ПРЫНОСІЦЬ нам некаторыя ПЫТАННІ І КЛОПАТЫ: захварэла дзіця, не прыйшла газета, трэба ўзяць білет на цягнік. Каб не даводзілася гартаць тэлефонныя даведнікі, «РГ» БУДЗЕ РЭГУЛЯРНА ЗМЯШЧАЦЬ ТЭЛЕФОНЫ СЛУЖБАЎ ПЕРШАЙ НЕАБХОДНАСЦІ І РЭЖЫМ ІХ РАБОТЫ. Спачатку будуць змешчаныя звесткі толькі па Маладзечне. Затым – і па іншых гарадах нашага краю. Чытайце наступны нумар.**

КУЛЬТУРА

# Лялечны тэатр "Батлейка" ў перыяд рамонту

МАЛАДЗЕЧНА. Чым жыве цяпер тэатр "Батлейка"? На пытанне адказвае галоўны адміністратар **Тэрэса Васільева**.

– У сувязі з тым, што ў нашым тэатры ідзе рамонт, спектаклі ставім толькі па нядзелях. Бліжэйшы – казка "Маша і Мядзведзь" – адбудзецца 12 снежня а 12–й гадзіне. Кошт білетаў – 50 тысяч.

Ідзе падрыхтоўка да навагодніх ранішнікаў. Нас чакаюць у гарадскіх школах, паедзем у Чысць на "Забудову", у Аляхновічы, Беразінскае. Заказаў сёлета – як ніколі. Добра, што народ пачаў хадзіць у тэатр.

Працуем над спектаклем паводле апавядання Гогаля "Нос" (інсцэніроўка Пятра Васючэнкі, рэжысёр – паляк Анджэй Жыгадла). Цяпер нашыя майстэрні працуюць над дэкарацыямі і рэквізітамі (мастак **Фелікс Розаў**). Рэпетыцыі пачынаем у лютым–сакавіку.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

# Нараджэнне новай «зоркі»

АСТРАВЕЦ. 18 лістапада ў Мінску ў галерэі "Вільнюс" адбылося адкрыццё выстаўкі маладога астравецкага мастака Андрэя Самуся. Ён завочна вучыцца ў Гродзенскім вучылішчы мастацтваў завочна і працуе мастаком–пастаноўшчыкам народнага тэатра Дома культуры. Малюнкі Андрэя часта друкуюцца ў газеце "Пераходны ўзрост", супрацоўнічае ён таксама з "Астравецкай праўдай".

На выстаўцы ў Мінску былі прадстаўленыя графічныя работы "Легенда", "Чародей", "Сплин", "Новое поколение", "На пороге нового тысячелетия" і іншыя.

Асабліва ўразіла карціна "Когда болит душа". Нібы скамянелая вуглаватая постаць абапіраецца на спарахнелы корч дрэва; адчуваецца нейкая безнадзейнасць, сум, як нешта адыходзіць, хочацца крыкнуць, спыніць, але позна...

Андрэй піша вершы, кладзе іх на музыку, мае цудоўны голас.

Неўзабаве выстаўка Андрэя Самуся пройдзе і ў ў Маладзечне.

*Кацярына СЫСУН.*

АДРАДЖЭННЕ

# Мінкульт хоча, але не можа

**МІНСК. У Міністэрстве культуры лічаць, што яго «фінансавыя магчымасці не дазваляюць аказаць дзейсную дапамогу ў справе музеефікацыі дома Браніслава Тарашкевіча» ў Радашковічах.**

На днях Таварыства беларускай мовы атрымала з Мінкульта адказ на свой ліст пра неабходнасць стварыць музей у доме, дзе з 1923 па 1931 гады жыў вядомы дзеяч нацыянальнага адраджэння, палітык, філолаг і літаратар, акадэмік Акадэміі навук БССР Б. Тарашкевіч.

У адказе, падпісаным намеснікам міністра **Валерыем Гедройцам**, адзначаецца, што гэтае пытанне разглядалася яшчэ напачатку 90-х, «аднак за мінулы перыяд сітуацыя істотна не змянілася» – мясцовыя ўлады не стварылі неабходныя ўмовы для арганізацыі музея і засталася ранейшай балансавая прыналежнасць дома Тарашкевіча, у якім па-ранейшым жывуць людзі. Разам з тым, як зазначае намеснік міністра, фігура Б. Тарашкевіча заслугоўвае ўвекавечання, і яго мемарыяльны музей мог бы стаць філіялам Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне. Аднак «вырашэнне гэтага пытання магчымае толькі сумеснымі высілкамі ўпраўлення культуры Мінскага аблвыканкома і Маладзечанскага райвыканкома», падкрэслівае В. Гедройц.

Як вядома, адзін з лідэраў нацыянальнага сацыял-дэмакратычнага руху Б. Тарашкевіч падрыхтаваў і выдаў у 1918 годзе першую «Беларускую граматыку для школ». Абраны паслом сейма Польшчы, узначаліў беларускую парламенцкую фракцыю, якая выступала ў абарону правоў рабочых і сялян Заходняй Беларусі. Адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы, Б. Тарашкевіч неаднойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі і быў асуджаны агульным лікам на 20 гадоў турмы і катаргі. У выніку абмену палітзняволенымі з верасня 1933 года жыў і працаваў у Маскве.

Распрацаваныя ім граматычныя нормы беларускай мовы, што ўвайшлі ў гісторыю пад назвай «тарашкевіца», у выніку ўрадавай рэформы, праведзенай у 1933 годзе, былі выведзеныя з ужывання і замененыя так званай «наркамаўкай», афіцыйна прынятай у краіне дагэтуль.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

МОЛАДЗЬ СУПРАЦЬ СНІДУ

# Не памірайце ад невуцтва

З галіны тэорыі СНІД стаў для Беларусі цалкам практычнай праблемай і набыў маштабы, што пагражаюць выжыванню беларускай нацыі. Найбольш падвяргаецца пагрозе ВІЧ-інфіцыравання моладзь: на сёння людзі 15-25 год складаюць больш за 66% ад усіх выяўленых у краіне выпадкаў заражэння.

Рэальная колькасць ВІЧ-інфіцыраваных у Беларусі перавышае 10 тысяч, лічыць кіраўнік лабараторыі эпідэміялагічнага нагляду і этыялогіі СНІДу Інстытута эпідэміялогіі і мікрабіялогіі **Пётр Рыцік**. Такое меркаванне навуковец выказаў, калі выступаў 6 снежня падчас «круглага стала» па праблемах прафілактыкі і кантролю інфекцыйных захворванняў, які адбыўся ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы ў Мінску.

МАЛАДЗЕЧНА. З 30 лістапада па 7 снежня ў фае кінатэатра «Радзіма» сумесна з лячэбна-прафілактычнымі ўстановамі горада была арганізаваная выстаўка санітарна-асветнай літаратуры, плакатаў, стэндаў, санітарных бюлетэняў.

2 снежня ў кінатэатры гарадскі цэнтр здароўя пры садзеянні гарвыканкома правёў акцыю для школьнікаў і навучэнцаў ПТВ горада, прысвечаную Сусветнаму дню прафілактыкі СНІДу. Адкрыў мерапрыемства першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**.

Пасля выступлення ўрача-валеолага цэнтра здароўя дэманстраваліся відэафільмы. Затым было эстраднае шоў, а на заканчэнне прайшла дыскатэка, на якую моладзь атрымала запрашальныя білеты, аплачаныя гарвыканкомам.

*А.ГАРБАЧЭЎСКАЯ, в. а. галоўнага ўрача Маладзечанскага цэнтра здароўя.*

КРОК У XXI СТАГОДДЗЕ

# Высокая мода «Сотера»

*МАЛАДЗЕЧНА. Вытворча-камерцыйная фірма «Сотер» узяла ўдзел у пятай міжнароднай Асамблеі высокай моды, што традыцыйна праходзіць у Рызе.*

Вядомы беларускі мадэльер Саша Варламаў і "Сотер" выступалі адной камандай. Па яго эскізах маладзечанцы пашылі 2 вясенне–летнія калекцыі адзення да 2000–га года. Дэманстравалі калекцыі 12 манекеншчыц "Агенцтва Сашы Варламава".

У асамблеі ўдзельнічала новае пакаленне дызайнераў Францыі, Фінляндыі, Нарвегіі, Італіі, Германіі, Іспаніі, Арменіі, Латвіі (усяго 12 краін). Расію прадстаўляў Валянцін Юдашкін. Саша Варламаў і маладзечанцы былі адзіныя з Беларусі, каго запрасілі на гэты прэстыжны конкурс. Аб прэстыжнасці сведчыць прысутнасць сусветна вядомых людзей у гэтай галіне: Бруно Бірманіса, Віестурса Ціле.

Кіраўнік групы прадпрыемстваў Baltcom **Петэрыс Шмідрэ:**

– Асамблея моды паказвае шлях, які дазваляе крочыць у нагу з часам і нават ісці на крок уперадзе.

Праграма ў 6 дзён была насычаная: прэзентацыя школ моды; конкурс "неўтаймаванай моды"; калекцыі дызайнераў; агляд–конкурс грандаў моды; выстаўка гатовай прадукцыі і аксесуараў. Адпаведныя былі і назвы калекцый: "Сад скульптур і непрачытаных газет", "Мімікрыя", "Пад вадою", "Ружа Усходу"...

– На конкурсе мы займелі пэўны аўтарытэт, – гаворыць дырэктар ВКФ "Сотер" **Аляксей Скарбееў**, – будзем імкнуцца яго замацоўваць. А тое, што беларускі мадэльер Саша Варламаў для ўвасаблення свайго майстэрства выбраў менавіта нас, не лічу выпадковасцю.

Фірма "Сотер" распрацоўвае і шые адзенне. Летась, на гарадскім паказе мадэляў, кіраўнік лабараторыі ВКФ **Святлана Іванчанка** атрымала "Залатыя нажніцы" – самую высокую адзнаку.

**– Ці ўсталявалася ў вас звычайнае, паўсядзённае жыццё пасля "выхаду ў свет"?**

– Я б так не сказаў, – не згадзіўся Аляксей Скарбееў, – 340 чалавек фірмы мэтанакіравана робяць адну справу: набліжаюць беларускую моду да сусветнай, забяспечваюць нас усіх недарагім, але зручным і модным адзеннем.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



**На пяці пляцоўках 200 мадэляў дэманстравалі 160 калекцый, кожная з каторых уключала ад 45 да 85 касцюмаў. Ім дапамагалі 26 мастакоў грыму, 30 цырульнікаў, 50 касцюмераў. А наогул, за час асамблеі быў паказаны 3 241 касцюм.**

**У манекеншчыц Сашы Варламава за 4 дні было 35 паказаў.**

*На эскізах Сашы Варламава адзенне шылі ў Маладзечне.*

З БЮЛЕТЭНЯ «MODES ASAMBLEJA'99».

НАШЫ ЗА МЯЖОЙ

# Валожынец Уладзімір Пашкевіч п'е шампанскае з Ігарам Крутым

*ВАЛОЖЫН. Карэспандэнта раёнкі "Працоўная слава" **Уладзіміра Пашкевіча** запрасілі ў Маскву на запіс заключнага канцэрта "Песні–99". Там ён пазнаёміўся з многімі "зоркамі" расійскай эстрады, выпіў шампанскага з Ігарам Крутым, паднес падарунак вядучай Ангеліне Воўк. А з рук генеральнага дырэктара тэлеканала ОРТ Канстанціна Эрнста атрымаў "залаты" дыплом лаўрэата тэлефестывалю.*

Уладзімір разам з інжынерам–канструктарам з Львова і выкладчыцай з Курганскай вобласці стаў пераможцам віктарыны. Штомесяц пры трансляцыі "Песні–99" чытачам прапаноўвалі адказаць на пытанні з гісторыі песень. Акрамя дакладнасці, улічвалі і хуткасць дасылаемых адказаў. Выбралі траіх з усёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза.

Гэта быў другі візіт у Маскву карэспандэнта з Валожына. У 1976 годзе тады яшчэ васьмікласніка Валодзю таксама ў якасці пераможцы віктарыны запрасілі на фінал "Песні года". Тады запіс перадачы праходзіў у канцэртнай студыі "Астанкіна". І побач з расійскімі выканаўцамі няблага выглядалі беларусы – "Песняры", Віктар Вуячыч. Сёлетні канцэрт адбыўся на сцэне крамлёўскага Палаца з'ездаў.

– Мы сядзелі ў трэцім радзе. Ангеліна Воўк нас, пераможцаў, прадставіла, – расказвае Уладзімір, – масквічы вельмі цёпла прынялі. Дарэчы, білет на запіс заключнага канцэрта каштаваў ад 120 долараў. Запіс праходзіў 5 снежня з 16 да 21 гадзіны. Пад абед быў невялікі фуршэт. Пасля ўжо, апоўначы, для канала ОРТ у нас бралі інтэрв'ю. Дзень, як бачыце, быў насычаны.

**– Адна справа сядзець у зале, іншая – пабываць за кулісамі.**

– Нам пашчасціла. Шэф–рэдактар праграмы Ала Дзмітрыева нас туды завяла. У стастунках па–за тэлекамерай "зоркі" – людзі простыя. Шмат у мяне аўтографаў – Рубальская, Шаганаў, Мацецкі, Рэзнік...

Уладзімір Пашкевіч агульную мову з выканаўцамі, мэтрамі расійскай эстрады знайшоў адразу. Са школьных год ён захапляецца савецкай эстрадай (у яго калекцыі толькі пласцінак каля 500 штук), глыбока цікавіцца гісторыяй, накірункамі эстрады.

**– Калі ўбачым цябе на тэлеэкранах?**

– Канцэрт па частках будзе дэманстравацца, хутчэй за ўсё, 1, 2 і 3 студзеня. Апярэджу падзею: падчас выступлення абвясцілі, што Людміла Гурчанка атрымала прэмію імя Клаўдзіі Шульжэнкі, а Вахтанг Кікабідзе – імя Леаніда Уцёсава.

**– Дзе вас арганізатары пасялілі?**

– Жылі мы ў гасцініцы "Масква", насупраць расійскай Дзярждумы. Само падарожжа ў Маскву было за свой кошт – гэта агаворваецца. За матэрыяльную падтрымку ўдзячны райвыканкому, за падарункі – фабрыцы керамічных вырабаў, кандытарскай, ільнозаводу.

**– Твае "самыя–самыя" ўражанні ад візіту?**

– Калі пералічваць, зойме зашмат часу. Уразіла, што за кулісамі на кожным кроку ахова – "сек'юрыты" (акрамя "штатных", кожны артыст мае сваю). Пасля выступлення Шуры Ала Дзмітрыева кінула: "Умом Россию не понять..." І я з ёю абсалютна згодны: гэтага выканаўцу, як і Барыса Маісеева, літаральна закідалі кветкамі.

**– З расійскіх дзяржаўных дзеячаў, палітыкаў на запісе нехта быў?**

– Дакладна ведаю, што прысутнічаў Павел Барадзін. Персанальна аб прысутнасці таго ці іншага лідэра не абвяшчалі. Можа, падчас прагляду па тэлебачанні камера кагосьці "схопіць". Хаця выбары ў Дзярждуму адбудуцца 19 снежня, таму свяціцца ў перадачы, якая выйдзе на экраны 1 студзеня, сэнсу ўжо няма.

***Віталь КРУПЯНЬКОЎ.***

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 2 снежня | 9 снежня |
|---|---|---|
| Долар | 313 000,00 руб. | 315 000,00 руб. |
| Марка Герм. | 161 770,73 руб. | 164 978,68 руб. |
| Літ | 78 228,49 руб. | 78 728,35 руб. |
| Рас. руб. | 11 700,00 руб. | 11 750,00 руб. |
| Злоты | 73 921,00 руб. | 75 426,52 руб. |
| ЕЎРА | 316 396,05 руб. | 322 670,25 руб. |

"Вулічныя" курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 730 000–760 000 руб. | 720 000–750 000 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) | |
|---|---|---|---|
| | | 1.12 | 8.12 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 795 | **795** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 2710 | **2600** |
| Сасіскі | 1 кг | 715 | **642** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 650 | **630** |
| Рыс | 1 кг | 380 | **380** |
| Грэчка | 1 кг | 550 | **550** |
| Цукар | 1 кг | 235 | **230** |
| Алей | 1 л | 580 | **550** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 290 | **347** |
| Маянэз | 250 г | 110 | **110** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 780 | **780** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 270 | **260** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 190 | **200** |
| Лімоны | 1 кг | 650 | **650** |
| Бананы | 1 кг | 430 | **420** |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 150 | **160** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | **400** |
| Масла | 1 кг | 1200 | **1200** |
| Тварог | 1 кг | 500 | **400** |
| Малако | 1,5 л | 200 | **180** |
| Бульба | вял.вядро | 500 | **600** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 350 | **600** |
| Яблыкі | 1 кг | 400 | **300** |
| Капуста | 1 кг | 70 | **70** |
| Морква | 1 кг | 150 | **140** |

ПРАФЕСІЯ

# Чыгуначная «рамантыка»

*МАЛАДЗЕЧНА. Чыгунка традыцыйна лічыцца танным і зручным відам транспарту. Рэйкі — яны і ў Афрыцы рэйкі, а вось машыністы бываюць трох класаў. "Трэцякласнікам" дазваляецца вадзіць грузавыя цягнікі, а машыністы першага і другога класаў працуюць на пасажырскіх.*



*Станцыя Маладзечна. Тут перад электрычкай можна прайсці без апаскі за сваё жыццё.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

Для таго, каб стаць машыністам або хаця б яго памочнікам, трэба, як мінімум, год вучыцца. Але тэорыя і практыка – розныя рэчы.

– Цягнік павінен прыйсці на канцавую станцыю ў вызначаны час. Толькі з досведам прыходзіць пунктуальнасць, – гаворыць машыніст электрычак з 17–гадовым стажам **Вячаслаў Аніська**.

Цягнік, дарэчы, ідзе з сярэдняй хуткасцю 60 кіламетраў у гадзіну. На рэйках, натуральна, не стаяць "даішнікі" з радарамі, але машыністы вышэй за 120 км/г не разганяюцца. Справа ў тым, што нашыя пуці – не для вялікіх хуткасцяў.

Існуе таксама спецыяльны прыбор – вымяральнік хуткасці. Перад кожнай паездкай у яго закладваецца стужка. На працягу ўсёй дарогі на ёй фіксуецца літаральна кожнае дзеянне машыніста: вызначаюцца час, хуткасць, сігналы семафора, на якія ехаў цягнік (на чырвоны і сіні ехаць нельга, а на зялёны, белы і жоўты ехаць дазваляецца; для распазнавання сігналаў існуе аўтаматычна–лакаматыўная сігналізацыя – АЛСН). Пасля паездкі кантрольную стужку разглядае спецыяліст. Калі машыніст ехаў з парушэннямі, гэта ўплывае на колькасць грошай у яго кішэні (зарплата машыніста грузавога цягніка складае 34 мільёны, дызеля і электрычкі – 40 мільёнаў; памочнік машыніста атрымлівае на 10 мільёнаў менш (для параўнання: у Літве машыніст – у пераліку – зарабляе каля 400 долараў).

Ніякага штурвала на цягніку няма. Ёсць рэверсар, які дае напрамак (уперад або назад) і кантролер машыніста – нешта накшталт пераключальніка хуткасцяў. Кантролер машыніста электрычкі мае чатыры пазіцыі, дызель–цягніка – пятнаццаць ці шаснаццаць ( у залежнасці ад "узросту" цягніка), грузавога – пятнаццаць.

Тармазы ў грузавых цягніках і ў дызелях пнеўматычныя, а ў электрычках – электрапнеўматычныя.

Змена не перавышае дванаццаці гадзін. Пасля паездкі машыніст і яго памочнік павінныя адпачыць палову таго часу, што знаходзіліся ў дарозе. Для гэтага на станцыях ёсць спецыяльныя "дамы адпачынку", дзе кожная брыгада можа паспаць, памыцца, падсілкавацца, паглядзець тэлевізар.

Графік выездаў складаецца, прыкладна, на месяц.

– Даводзіцца часта працаваць ноччу. Нармальныя людзі спяць у гэты час, а мы, "ненармальныя", едзем у цемру. Чырвоныя дні каляндара мы таксама не ўсе святкуем, – скардзіцца Вячаслаў Аніська.

Нягледзячы на час сутак і на дзень тыдня, машыніст пасажырскага цягніка павінен быць уважлівы і адказны. Галоўнае – даставіць пасажыраў у цэласці на канцавую станцыю. Памочнік машыніста сочыць за тым, каб пасажырам было цёпла і ўтульна. Ён таксама адказвае за парадак у вагонах (у электрычцы іх восем ці дзесяць; у дызелі – тры, пяць, сем, восем ці дзесяць).

З–за старой тэхнікі (самаму стараму цягніку – 20 год) калі–нікалі здараюцца збоі. На дапамогу тут прыходзяць залатыя рукі памочніка машыніста, які мусіць умець "дамовіцца" з любым прыборам. Памочнік машыніста (як грузавога, так і пасажырскага цягніка) павінен паўтараць сігналы семафора і ў любы момант быць гатовы падмяніць машыніста.

З–за шкодных умоў працы машыніст і памочнік машыніста ідуць на пенсію ў 55 год.

– І тое, калі дажывем, – жартуюць машыніст грузавога цягніка **Аляксандр Бажэнаў** і яго памочнік **Аляксандр Сабачэўскі**.

Сапраўды, "рулявыя" цягнікоў знаходзяцца ў пастаянным магнітным полі і пад уздзеяннем вібрацыі. Амерыканскія спецыялісты сцвярджаюць, што апошняе горш за радыяцыю.

## Пасажыры

Машыністам пасажырскіх цягнікоў і іх памочнікам патрэбна мець устойлівую псіхіку: пасажыры бываюць розныя.

– Даводзіцца рабіцца міліцыянерам, супакойваць надта нервовых альбо "цёпленькіх" пасажыраў. Калі чалавек не разумее, мы адпраўляем яго ў бліжэйшы кантрольны пункт міліцыі, – гаворыць памочнік машыніста **Вячаслаў Зіневіч**.

У машыністаў электрычак існуе думка, што самыя дысцыплінаваныя пасажыры з буйных чыгуначных вузлоў – "заходнікі" (жыхары Баранавічаў і Маладзечна), а самыя "баламуцістыя" жывуць у Асіповічах. Хаця, у машыністаў дызеляў напрамак Маладзечна – Юрацішкі лічыцца "дурным бокам".

– У цягніках падчас падарожнічаюць варвары, – гаворыць машыніст цягнікоў–дызеляў **Алег Бурэц**. – Здымаюць плафоны і сядзенні, рэжуць іх, б'юць шкло. Акрамя гэтага, ёсць жадаючыя праехаць у кабіне машыніста. Адныя тлумачаць гэтае сваё жаданне фінансавымі цяжкасцямі, а іншыя – цікаўнасцю. Асабліва даймаюць падлеткі. Але, паводле інструкцыі, пабочных асоб у кабіне машыніста не павінна быць.

## У кожнага машыніста – свае маленькія могілкі

– Людзі часта пераходзяць пуці перад цягніком. А тармазны шлях пасажырскага цягніка складае 200–300 метраў, грузавога – 1 кіламетр. Многія гінуць з–за абыякавасці да свайго жыцця. Калі чалавек трапіў пад колы цягніка, машыніст павінен спыніць "машыну", зрабіць агляд пацярпелага і выклікаць "хуткую", міліцыю. Потым патрэбна паведаміць пра здарэнне лінейнаму дыспетчару (у кожным цягніку ёсць радыёсувязь).

**– Што адчувае машыніст, калі едзе?**

– За акном заўсёды аднолькавы пейзаж: лясы і дачы. Ніякай рамантыкі. Работа – гэта работа. Але працаваць машыністам на чыгунцы лепш, чым "катацца" у метро. Тут, на чыгунцы і на захад сонца паглядзіш, і світанак сустрэнеш, – расказвае машыніст Вячаслаў Аніська.

## Калі дрэнна машыністу

Перад паездкай машыніст і яго памочнік праходзяць медагляд. У выпадку дрэннага самаадчування выклікаюць іншага машыніста або памочніка.

– Калі ў дарозе машыністу раптам стала блага, ён павінен паведаміць пра гэта па радыёсувязі дыспетчару. Нагогул, існуюць прыборы бяспекі. Машыніст усю дарогу павінен трымаць у рабочым стане кнопку пільнасці. Калі яна "беспрацоўная" на працягу сямі секунд, цягнік аўтаматычна спыняецца. І памочнік заўсёды побач, – гаворыць Алег Бурэц.

## Калі дрэнна пасажыру

На гэты выпадак у цягніку ёсць аптэчка. Калі яе недастаткова, па радыёсувязі машыніст выклікае "хуткую", і хворага высаджваюць на бліжэйшай станцыі.

"Нарэшце прыехалі!" – так звычайна вітаюць адзін аднаго машыніст і яго памочнік, калі іх цягнік прыбывае на канцавую станцыю.

***Юлія ВАНСЛАЎ.***

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка

ад Ірыны Буцер, Маладзечна



**Па гарызанталях:** 4. Кароткі запіс. 9. Халодная ручная зброя. 10. Дзяржава ў Азіі. 11. Наглядаючая асоба. 14. Метка, якой абазначаецца што–небудзь. 17. Вакальная партыя. 18. Орган зроку. 20. Цёмнаскуры чалавек. 22. Газападобнае паліва. 23. Суровае пакаранне. 24. Глыбокае месца на рацэ. 26. Жывёліна, паўзун. 27. Пашкоджанне механізма. 28. Прапанова як дзейнічаць. 29. Раствор смол у спірце. 31. Яма ў кратэры вулкана. 32. Кіраўнік каталіцкага мужчынскага манастыра. 34. Нарост на дрэве. 36. Месца ў тэатральнай зале. 38. Пералётная птушка. 39. Суквецце злакаў. 41. Грашовая адзінка В'етнама. 42. Службовая асоба са спецыяльнымі паўнамоцтвамі. 44. Паводка. 45. Від рэвальвера. 46. Грузавы возчык з фурманкай.

**Па вертыкалях:** 1. Праваслаўны манах. 2. Сталіца Егіпта. 3. Насякомае–крывасмок. 5. Народны паэт–спявак на Каўказе. 6. Падобны прадмет. 7. Група вучняў. 8. Жыхар узбярэжжа мора на поўначы. 12. Сігнальны музычны інструмент. 13. Шырокая металічная пасудзіна. 15. Прагрэсіўны рабочы. 16. Частка чаго–небудзь. 18. Хімічны элемент, лёгкі газ. 19. Група суднаў, адно за адным. 21. Марскі разбойнік. 23. Марская жывёла, жыве на скалах. 25. Моцны працяглы роў. 26. Зачэп у багры. 30. Асобна ўзятая расліна. 33. Жвачная жывёла. 34. Круглаваты кавалак. 35. Пояс. 37. Прыстасаванне для сцёку вадкасцяў. 39. Пікейнае пакрывала. 40. Зімовая павозка. 42. Круг, які круціцца на восі. 43. Водны паток.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №48*

**Па гарызанталях:** 9. Чарнакніжнік. 11. Карэспандэнт. 13. Ала. 14. Эра. 15. Явар. 16. Ом. 18. "Фа". 19. Фонд. 20. Чад. 22. Акт. 24. Банда. 25. Акруга. 26. Альбом. 27. Таксі. 31. Формула. 32. Клеяварэнне. 33. Брашура. 36. Вепр. 38. Аперэта. 39. Ліпа. 40. Элемент. 42. Рэакцыя. 45. Цаля. 48. Аброк. 49. Вася. 51. Аркан. 52. Бурда. 53. Араб. 54. Катах. 55. Рынг. 59. Даўніна. 61. Кангрэс. 63. Акно. 64. Крапіва. 66. Ідал. 67. Трацiна. 69. Каралеўства. 70. Манжэта. 74. Юнкер. 75. Атрута. 76. Арбітр. 77. Мэбля. 79. Бас. 82. Чын. 83. Крос. 84. Ар. 85. Як. 87. Нота. 88. Ага. 90. Лот. 92. Метэаралогія. 93. Арыстакратыя.

**Па вертыкалях:** 1. Юра. 2. Назва. 3. Антракт. 4. Ажно. 5. Мэта. 6. Апафеоз. 7. Анонс. 8. Чэк. 9. Чарнасоценец. 10. Капа. 11. Кант. 12. Транскрыпцыя. 17. Магнета. 18. Фаланга. 21. Адам. 23. Фарш. 28. Глісер. 29. Дабро. 30. Трасца. 34. Электроніка. 35. Грамадзянін. 37. "Рэ". 39. "Ля". 41. Тачанка. 42. Рабунак. 43. Абзац. 44. Кокан. 46. Акр. 47. Ямб. 49. Вір. 50. Сон. 53. Абскурантызм. 56. Геранталогія. 57. Аўчына. 58. Бровар. 59. "До". 60. Шпіён. 62. "Сі". 64. Куратар. 65. Артэрыя. 68. Цвет. 71. Жрэц. 72. Атэстат. 73. Штандар. 78. Арган. 79. Біля. 80. Сіта. 81. Атара. 84. Абоз. 86. Каса. 89. РТР. 91. Ёта.

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Мы беларусы

Дом адпачынку "Руза" у Падмаскоўі. Адпачывалі ў ім людзі з розных куткоў Савецкага Саюза, ездзілі на экскурсіі ў Маскву, наведвалі тэатры, выстаўкі.

Нам, з Беларусі, захацелася зрабіць самастойнае падарожжа па маляўнічым наваколлі: прыцягвалі ўвагу бярозавыя гаі, невялікія ручаіны. Хацелася пабываць у якой–небудзь вёсцы. Такіх аматараў–турыстаў сабралася шэсць чалавек. Пасля снедання рушылі ў дарогу, як кажуць, куды вочы глядзяць.

На шляху трапілася вёска. Вуліца шырокая, абсаджаная дрэвамі. Вокны дамоў упрыгожваюць з густам зробленыя аконныя рамы.

Нашу ўвагу прыцягнулі немаладых год жанчына і дзяўчына-падлетак, якія на вуліцы, насупраць дома, пілавалі дровы, а іх там было з добры трактарны прычэп. Вядома, занятак гэта не жаночы.

Адзін з нашай кампаніі кажа:

– Давайце, хлопцы, дапаможам, сіл на дармавых харчах накапілі нямала.

Пярэчанняў не паступіла.

Папрасілі ў жанчыны пілу і пачалі пілаваць бярвенні. Тут я кажу гаспадыні:

– Пазычце ў суседзяў іншую пілу, і трэба дзве сякеры.

Хуценька змайстравалі другія козлы – і закіпела работа. Чацвёра пілавалі, а двое шчапалі дровы.

– Вы гатовыя дровы насіце з вуліцы, – падказалі бабулі і яе ўнучцы.

Мы праз пэўны час мяняліся ролямі: хто пілаваў, той браўся за сякеру, і наадварот.

Нашу кампанію нарыхтоўшчыкаў паліва заўважылі многія вяскоўцы, пачалі адклікаць гаспадыню, пра нешта шаптацца. Напэўна, хацелі ведаць, за якую цану вядуць нарыхтоўку паліва. Жанчына толькі пацiскала плячыма, бо мы не ставілі ніякіх умоў.

Работы заставалася на хвілін пяць–дзесяць. Звяртаюся да бабулі:

– Нагрэйце вады, падрыхтуйце мыла, ручнік.

Калі прывялі сябе ў парадак, гаспадыня спыталася:

– Колькі вам заплаціць?

– Нікольки, грошы нам не патрэбныя.

– Тады прашу ў хату, чым магу, тым пачастую.

Таксама адмаўляемся. Жанчына здзівілася ўсяму пачутаму.

– Дык хто вы такія?

– Мы – беларусы. Працаваць нам не прывыкаць.

Не злічыць, колькі ўдзячных слоў сказала нам жанчына з рускай вёскі.

Калі вярнуліся ў Дом адпачынку, мы з апетытам праглынулі абед. З'явілася пачуццё, што не змарнавалі дзень.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

## Каб не здох

Еду 18 ліпеня ў аўтобусе Маладзечна–Валожын. Народу амаль чалавек 30. Уладкаваўся на заднім сядзенні, "на маторы". Горача, але ж стаяць не трэба. Побач два мужчыны, гадоў за трыццаць кожнаму. Відаць, што знаёмыя, але размова не клеіцца. Адзін пытаецца:

– Працуеш?

– Працую.

– Там жа?

– Там.

– Плацяць?

– Плацяць.

– Ну і як?

– Ды даюць, каб не здох...

Больш ні адзін, ні другі не прамовілі ні слова і моўчкі выйшлі на сваіх прыпынках.

## Папярэджанне

Збіраю з дзецьмі яблыкі ў садзе. Падыходзіць знаёмы Лявон:

– Ведаеш, толькі што атрымаў папярэджанне.

– Якое? – пытаюся.

– Сяку я дровы, – працягвае ён. – Бачыш, якое надвор'е ціхае? І раптам – адкуль ні вазьміся – нейкі віхор. Падхапіў стрэшку з маёй альтанкі – ды проста ў акно. Шкло толькі зазвінела! І я зразумеў, што гэта мне папярэджанне, каб не працаваў у нядзелю.

Сапраўды, была нядзелька і вельмі ціхае надвор'е.

*Мікола ЛІННІК.*

ГАРАСКОП 13 – 19 СНЕЖНЯ



**Авен (21.03–20.04)**

Падыме настрой кругленькая сума, якая з'явіцца ў кашальку 17-18 снежня. Можаце разлічваць на падтрымку сяброў і ўзаемаразуменне з начальствам.



**Цялец (21.04–21.05)**

На некаторы час будзе лепш спыніць дзелавыя перамовы і менш бываць у сям'і: магчыма, ваш партнёр або муж(жонка) толькі і чакаюць моманту, каб наладзіць сварку.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Вялікія непрыемнасці на асабістым фронце. Чакаюцца кароткая паездка і невялікія фінансавыя паступленні. Значныя перамены ў сям'і.



**Рак (22.06–23.07)**

Паступова справы паляпшаюцца. Але будзьце напагатове. Чым бліжэй заканчэнне года, тым вышэй шанцы, што толькі адзін на адзін з сабою вы ў стане распрацаваць далейшую стратэгію.



**Леў (24.07–23.08)**

Працягваецца перыяд пад'ёму ў справах і каханні. Чакайце таксама запрашэння «у людзі». Пазбягайце высвятлення адносінаў з прадстаўнікамі знакаў паветра.



**Дзева (24.08–23.09)**

Непрыемнасці на рабоце справакуюць вас з галавой паглыбіцца ў асабістае жыццё, вас не будуць палохаць вымовы і прачуханкі. Асцярожней за рулём у выхадныя дні.



**Шалі (24.09–23.10)**

Многія Шалі будуць расчараваныя весткамі – вы не чакалі гэтага. Вы спатрэбіцеся адначасова ўсім. Не выратуе нават уменне хавацца ад праблем. Будзе раздражняць і некаторая нестабільнасць фінансавага становішча.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Парадуе спатканне са старымі сябрамі ў цёплай кампаніі. Але не «перастарайцеся» з алкаголем, вы і так на мяжы хваробы.



**Стралец (23.11–21.12)**

Невялікая прэмія або ганарар будуць вельмі дарэчы, вы зможаце не толькі аддаць даўгі, але і набыць сабе абноўку. Аднак рэчы, купленыя ў гэтыя дні ці зламаюцца, ці згубяцца.



**Казярог (22.12–20.01)**

Вельмі шмат работы. Такое ўражанне, што ўсе вакол занятыя адным: як мага больш выціснуць з вас спраў і грошай. Не будзе хапаць часу нават на сон.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Перыяд прыдатны для паездак, прыёму гасцей. У рабоце – нежаданне займацца руцінай, так што можаце зарабіць вымову.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Гэта можа быць вельмі балюча, але вы, нарэшце, пазбавіцеся ад шэрагу ілюзій і... уздыхнеце свабодна. Сазваніцеся са старымі сябрамі.

ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Рэальны выпадак у аптэцы

Гадзін 8 раніцы. Заходзяць хлопец з дзяўчынай, год па 17-18.

Дзяўчына (бадзёра):

– У вас прэзерватывы ёсць?

Аптэкарка паказвае ёй на вітрыну, дзе ляжаць узоры наяўных тавараў.

Пакуль дзяўчына займаецца выбарам гумовай прадукцыі, да той самай аптэкаркі падыходзіць хлопец і ціха, з надзеяй у голасе, пытаецца:

– А снатворнае?

*Сямён РАБІНОВІЧ.*

ПРОСТА АНЕКДОТ

Сядзіць мужык на кухні, смаліць цыгарэту, задуменна глядзіць у попельніцу. Раптам адтуль з'яўляецца джын і ўрачыста кажа:

– Ну, урэшце, тваё трэцяе жаданне?

Мужык нічога не можа зразумець, таму ашалела перапытвае:

– А чаму адразу з трэцяга? Ні першага, ні другога ж не было...

– Ты нічога не помніш! Тваё другое жаданне было «зрабіць усё дакладна такім, як да першага жадання» – вось ты нічога і не можаш помніць пра мяне.

– Згода, – кажа мужык, – зараз нешта загадаю... А, вось, хачу стаць самым абаяльным і прываблівым для жанчын!

Джын шчоўкае пальцамі, кажа: «Гатова!» і, перад знікненнем ужо, гаворыць мужыку:

– Дарэчы, дакладна такое самае было і тваё першае жаданне...

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

***Гэтыя стравы ўпрыгожаць ваш святочны (навагодні) стол, але аматары смачна паесці могуць, натуральна, рыхтаваць іх і часцей.***

## Яйкі, фаршыраваныя пасечаным селядцом

*4 яйкі, 0,5 бульбіны, 0,5 морквы, 0,5 агурка, 60 г зялёнага гарошку, 0,5 шклянкі маянэзу.*

*Для фаршу: 160 г селядца, 1 яблык, 50 г белага хлеба, 0,5 цыбуліны, 1 вялікая лыжка масла, 1 маленькая лыжка 3%–нага воцату, перац.*

Прыгатаванне фаршу з пасечанага селядца. Селядзец пачысціць, выняць косткі, парэзаць скрылькамі. Яблыкі пачысціць ад скуркі, парэзаць на часткі, выдаліць костачкі. Пшанічны хлеб папярэдне замачыць у малацэ, потым адціснуць. Рэпчатую цыбулю парэзаць і крыху падсмажыць. Падрыхтаваныя прадукты прапусціць праз мясарубку, дадаць мяккае, добра выбітае масла, молаты перац, воцат і старанна перамяшаць.

Звараныя крута яйкі пачысціць, разрэзаць на палавінкі і выняць жаўткі. Палавінкі яечных бялкоў запоўніць фаршам. Начынку выраўняць так, каб надаць кожнай палове форму цэлага яйка.

Звараныя, абабраныя бульбу і моркву, а таксама салёныя агуркі парэзаць кружочкамі, выкласці на блюда, на іх пакласці фаршыраваныя яйкі, паліць маянэзам, упрыгожыць пакрышаным жаўтком, зялёным гарошкам і падаць да стала.

## Салата «Лёгкая»

*1–2 цыбуліны, 200 г сыру, 5 яек, звараных крута, 3–4 яблыкі (лепш антонаўку або іншыя кіслыя яблыкі), пакет маянэзу + 1 шклянка смятаны (змяшаць).*

Узяць салатніцу, у якой будзеце падаваць на стол. Змазаць дно і бакі сумессю маянэзу і смятаны. Абсыпаць дробна парэзанай цыбуляй. Потым на вісу на буйной тарцы надзерці спачатку яблыкі, потым яйкі, крыху пасаліць і паліць часткай сумесі маянэзу і смятаны, потым надзерці сыр. Заліць астатнюю сумесь і ўпрыгожыць.

Усё гэта не перамешваць! Пры раздачы лыжкай браць з дна, захопліваючы ўсе слаі, і класці на талеркі.

## Карп запечаны

*Карп (1 кг), 3–4 долькі часнаку, лыжка алею, лыжка масла, соль, зеляніна.*

Пачышчанага і памытага карпа (без галавы) старанна натерці працертым з соллю часнаком і паставіць на час у халоднае месца. Вогнетрывалую паўміску змазаць маслам. У сярэдзіну рыбы ўкласці пучок пятрушкі і сцягнуць краі з дапамогай шашлычнай шпількі (можна завастрыць запалку). Рыбу змазаць алеем, выкласці ў паўміску, абкласці кавалачкамі масла і паставіць на паўгадзіны ў гарачую духоўку.

Падаваць з бульбай і зялянінай.

## Торт без выпечкі

*0,5 кг пячэння, 1 шклянка пачышчаных грэцкіх арэхаў, 1 бляшанка згушчанага малака.*

У дробна пакрышанае пячэнне дадаць арэхі, згушчанае малако, старанна размяшаць. Масу выкласці ў форму, закрыць і паставіць у халоднае месца хвілін на 30–40. Затым пасыпаць цукрам і какава–парашком. Торт гатовы.

*Падрыхтавала Наталля БРОЎКА.*

